




*Mailing box for CD from Terence Emmons (Murphy, Oregon) postmark Medford, Oregon 2005-03-08*




*Другі бок скрынкі ад Тэрэнса Эманса (Теренс Эммонс) штэмп. 2005-03-08. Текст расшифровки "По Калифорнии" доктора Русселя на оптическом диске*

першым амерыканцам у Кіеве. Напэўна, ён не быў першым амерыканцам у Менску, які таксама наведаў у час падарожжа па Еўропе 1834-1835 гг. У 1839-1842 гг. ён ажыццявіў шэраг экспедыцый у Паўднёвую Мексіку, Гватэмалу і Гандурас. Пра яго піянерскую ролю ў даследаванні Месаамерыкі вядома ўсім амерыканістам. Але кніга Incidents of Travel in Greece, Turkey, Russia, and Poland (1838) павінна звярнуць на сябе большую ўвагу славістаў. Стывенс - адзін з "відавочцаў-першаадкрывальнікаў" славян для амерыканцаў.

(Дарэчы, Леа Вінер, які нарадзіўся ў Беластоку, а эміграваў у ЗША (1882), дзе стаў вядомым славістам,

Curt Woolhiser
Department of Slavic Languages and Literatures
Indiana University
Bloomington, IN 47405

18 кастрычніка 1992г.
Гомель

Дарагі Курт і

Вельмі прыемна было пазнаеміцца з Вамі і атрымаць згоду па перапіску. Мы безумоўна зацікаўлены ў абмене інфармацыяй з амерыканскімі славістамі. Памятаючы тое, як Вы ветліва згадзіліся садзейнічаць нам, хацелі б таксама прасіць дапамагчы з перасылкай некаторых лістоў амерыканскім адрасатам, змест якіх будзе датычыцца Вашых інтарэсаў. Не сумняваюся, што знойдзецца шмат узаемна цікавых тэм.

Калі ласка, пералічыце Вашы найбольш актуальныя "вузкія" цікавасці. Магчыма, маеце "курыкулюм вітаэ"? Наша таварыства "універсальнае": дайце "ўводныя" - мы з ахвотай забяспечым Вас наяўнай інфармацыяй. Нас цікавіць практычна ўсе, што ўваходзіць у дыяду "Беларусь-Амерыка".

Гэта, уласна кажучы, і ёсць галоўная мэта нашага першага ліста. Чакаем Вашага (твайго, бо спадзяюся, што мы адразу сталі добрымі сябрамі) адказу. Прывітанне сябрам і калегам у Індыяне.

Вось, дарэчы, адзін з прыкладаў "беларуска-індзейска-індыянскіх" сувязей. У "Всеобщей географии", складзенай Вінцэнтам Гальніскім, расійскім сенатарам і бацькам вядомага падарожніка (у т.л. і па ЗША) Аляксандра Гальнскага (іх маенткі былі на Крычаўшчыне, цяпер усход Магілёўскай вобласці), пра насельніцтва Індыяны напісана наступнае (ч. 2, СПб, 1818, с. 206): "Страна сия имеет около 24,250 жителей, кои все состоят из природных Индейцев, нередко делающих сопротивления и упорно защищающихся против угнетений Европейцев". (Няхай жа не будзе ни "угнетений", ни "сопротивлений", а будуць і "Индейцы" сярод "Европейцев" у Індыяне.)

З найлепшымі пажаданнямі

Алесь Сімакоў,
выканаўчы сакратар
Беларуска-Індзейскага
таварыства
246049, Гомель, а/я 114

*Letter to Curt Woolhiser, Department of Slavic Languages and Literatures, Indiana University (Bloomington, IN) 1992-10-18*

прафесарам Гарвардскага ўніверсітэта, у *"апошняй частцы сваёй кар'еры кінуў даследаванне ў славянскай галіне і аддаваў шмат часу даследаванням арабскай, германскай, афрыканскай і індзейскай культуры"*.)

Пасля непасрэднага знаёмства са славянскім светам у час не вельмі ўдалай спробы дыпламатычнай кар'еры ў амерыканскім прадстаўніцтве ў Пецярбургу (з 1864 г.) Джэрэмія Кэрцін стаў адным з лепшых спецыялістаў па індзейцах (індзеяністам). Гэты ўраджэнец Дэтройта з 1883 па 1891 г. працаваў у Бюро амерыканскай этналогіі. Будучы ў Расіі, Кэрцін стараўся вывучаць адразу некалькі моў, сярод якіх літоўская і латышская. Для нас важна, што ён пераклаў творы Г. Сянкевіча ("Лятарнік") і Э. Ажэшкі ("Арганаўты"), і варта было б высветліць, дзе ён рабіў гэтыя пераклады. Жыў, між іншым, і ў Гватэмале, Мексіцы, у індзейскіх пасяленнях у Злучаных Штатах.

У пачатку 1788 г. ва Усходняй Беларусі чакалі Джона Ледзьярда, амерыканскага падарожніка, удзельніка 3-й экспедыцыі капітана Дж. Кука (у сваёй кнізе пра гэтае падарожжа апісваў індзейцаў, з якімі давялося сутыкацца). У 1787-1788 гг. ён праехаў па Расіі да Якуцка, нягледзячы на "найвысачэйшую" адмову. Генерал-губернатар Полацкай і Магілёўскай губерняў П. Б. Пасек атрымаў 1.01.1788 г. "загад" Кацярыны II ад 21 снежня (ст.ст.) пасля адпраўкі яго праз Смаленск у Полацк *"выпроводить за границу с прещением, чтоб он впредь не осмеливался являться нигде в пределах империи нашей"*.



4/21/94

Mr. Ales Simakou
Executive Secretary
Byelorussian-American Indian Society
POB 114
Gomel 246049
Belarus

Dear Mr. Simakou:

Thank you for your postcard. As a followup to the information I sent you previously, please realize that all these groups and individuals are interested in performing in Belarus. There is grant funding available for artists and musicians invited overseas; in fact, I just returned from a concert tour of Ireland with a Comanche Indian flute player which was funded by such a grant. At this point, if you are interested, it would be most helpful if you would choose a group, artist, or performer, and set a tentative date, preferably late this year or next year. As I've indicated, the Belarus embassy here has submitted a proposal to the ministry of culture about American Indians. The person here is:

Alexander Ostrovsky
Second Secretary
Embassy of the Republic of Belarus
1619 New Hampshire Av NW
Washington, DC 20009

202-986-1606
FAX 202-986-1805

Please let me know if you need more information. Do you have a fax number?
I appreciate your interest in the best that Indian America has to offer.

Yours,

Gordon Bronitsky, PhD
Bronitsky and Associates
3551 South Monaco Parkway, Suite 195
Denver, CO 80237

303-695-8896
FAX 303-368-5868

***Letter from Gordon Bronitsky (Bronitsky and Associates, Denver, Colorado) 1994-04-21***

У 20 ст. у Беларусі пабывала нямала больш або менш вядомых амерыканцаў, некаторыя з іх жылі тут нейкі час.

Нам найбольш блізкі прыклад Тэранса Эманса, "руселезнаўца", які павышаў сваю кваліфікацыю гісторыка ў Маскве пад кіраўніцтвам П. Заянчкоўскага (смаленскія беларускія карані) і часта пасля таго прыязджаў у Расію, у т.л. для працы ў архівах.

6.05.2005 г. ён пісаў нам: *"Я быў у Беларусі ў 1973 г. летам, праездам на машыне. Спыніліся ў Мінску на ноч. Атрымалі нумар у гатэлі - шкляной каробцы на верхнім паверсе. Кандыцыянера не было. Горача. Частка вакна, што адкрывалася, была ўнізе, прама на ўзроўні падлогі, без грыляжа [?; гриляжа]. З намі было немаўля аднаго года, таму не маглі праветрываць нумар. Да гэтага часу памятаю. Пазней мяне запрасіў чытаць лекцыі ў Мінскім універсітэце мой стары сябар Ігар Аржахоўскі, але, на жаль, гэта не атрымалася, а Ігар неўзабаве пасля гэтага памёр"*.

З І. В. Ажахоўскім (1933-2002), беларускім гісторыкам, ён блізка пазнаёміўся ў час вучобы ў Маскве. Што да жонкі Эманса, то Вікторыя была знаходкай для тых, хто шукаў у Стэнфардзе добрую ежу; і яна цікавілася

October 21, 1996
Gomel, Belarus

Dear Alice,

I just received copies of letters you wrote to the Baha'i Centre in Minsk and to Paul Semenoff asking for information about the Baha'i Faith. I am a Baha'i, an American, living in Gomel and would like to meet you. We have a community here and many books, both in Russian and English. I will be happy to help you in any way I can. Please call me. My phone number is 55-40-70
I regret it has taken so long to respond to your letters, but I was in the United States most of the summer and just returned to Belarus in September.
I look forward to hearing from you.
Sincerely,
Phillis Dwyer

***Letter from Phillis Dwyer (Gomel) 1996-10-26***

мовамі, уключаючы рускую.

Амерыканцаў, якіх аўтар БСІ сустракаў асабіста - у час іх знаходжання ў Беларусі і з абменам хаця б парай слоў, - з першай спробы можна пералічыць на пальцах адной рукі. Прыгадваюцца К. Вулхайзер, Г. Браніцкі, Ф. Дуаер.

Лінгвіст, славіст-беларусіст Курт Вулхайзер даваў сваю аб'яву ў друку Беларусі - каб практыкавацца ў беларускай мове. Аўтар БСІ сустрэўся з ім у Бібліятэцы НАНБ, а потым сутыкнуўся проста на вуліцы, урэшце ж напісаў яму ў Індыяну па адрасе, які Курт пакінуў уласнаручна.

Гордана Браніцкага ўжо не трэба дадаткова прадстаўляць тым, хто чытаў нашу серыю БСІ. У яго шырокай геаграфіі паездак з індзейцамі і без для прафесійнай папулярызацыі індзейскіх культур і са спробай дасягнуць камерцыйны эфект - і Прыбалтыка, Расія. Яго прыезд у Беларусь, на радзіму продкаў, у 1996 г. разам з індзейцам наваха (У. Язі, Yazzie) быў адзіным, але ў вышэйшай ступені гістарычным у межах нашай тэмы. Нашу перапіску з Горданам характарызуюць наступныя лічбы па папяровай яе частцы: 10 уваходных лістоў і 16 канвертаў, адпраўленых з Дэнвера, і 10 выходных лістоў.

Філіс Дуаер жыла некаторы час у Гомелі - як бахаі. У час сустрэчы і размовы прагучала - у сувязі з яе Дэтройтам - і тэма аблогі горада воінамі Панціяка.

**Літ.:**

*10912 Sienkiewicz H. The light-house keeper of*





*Aspinwall / trans. J. Curtin // Sienkiewicz H. Yanko the Musician and other stories. Boston, MA, 1893. P. 30-69.*

*10927 Sienkiewicz H. The light-house keeper of Aspinwall // Stories by foreign authors. New York, 1970. (Апрацавана па перакладзе Дж. Кэрціна, J. Curtin (?).)*

*11844 Сімакоў А. Рэц. на кн.: Around California in 1891 / [by Nicholas Russel; trans. by Sara Fenander; ed. and with an introd. and a biographical sketch by] Terence Emmons. Stanford: Stanford Alumni Association, 1991 // Беларускі гістарычны агляд. 2020. Т. 25. Сш. 1-2. С. 318-324.*

*3073 Браніцкі Г. Гордан Браніцкі: "Я антраполаг, які спэцыялізуецца на індзейскіх дасьледаваннях, і мае дзядуля і бабуля з боку бацькі прыехалі зь Менску ў Беларусі […]" [з першага ліста Г. Браніцкага ў Гомель д. 23.09.1993] // Наша ніва. 1996. 19 жн. С. 11.*

**БІРУКОЎ Юрый -** гомельскі падарожнік, які "пабываў амаль у 650 гарадах свету" на працягу "больш за 17 гадоў". "Юрый Бірукоў даследаваў руіны старажытных паселішчаў індзейцаў у Аргенціне" і г.д., і г.д. Многае можна ўбачыць тут: https://yury-birukov.com.

У 2016 г. з'явіўся матэрыял "Нацыянальныя касцюмы жанчын свету ў фатаграфіях падарожніка з Гомеля" ("Гомельские ведомости").

*"Ва ўсе часы жанчыны любілі ўпрыгожваць сябе і насілі адзенне, багатае гісторыяй і традыцыямі сваёй краіны. Гомельскі фатограф і падарожнік Юры Бірукоў з дапамогай здымкаў распавёў "ГВ" пра найбольш маляўнічыя і цікавыя нацыянальныя строі прадстаўніц прыгожага полу, якіх сустрэў у сваіх паездках.*

*У Балівіі можна сустрэць жанчын, апранутых і па-еўрапейску, і традыцыйна, прычым усюды - на вуліцы, ва ўстановах, у гатэлях, у аэрапортах, у транспарце. Але ўлічваючы, што індзейцаў у краіне большасць, асабліва ў паўночных абласцях, то там можна заўважыць, што амаль усе прадстаўніцы прыгожага полу апрануты ў нацыянальныя касцюмы. Яны любяць насіць шырокія шматслаёвыя спадніцы, з-за чаго фігуры іх здаюцца поўнымі, а таксама вязаныя накідкі. Абавязковым атрыбутам у балівійскіх дзяўчат з'яўляюцца нацыянальныя капялюшыкі-кацялкі, падобныя якім насілі англійскія джэнтльмены пачатку мінулага стагоддзя. У розных рэгіёнах касцюм адрозніваецца па колеры, структуры тканін, выглядзе накідкі-пончa, даўжынішырыні спадніц і форме галаўнога ўбору".*




***Bolivia. Балівія. Photo of Iurii Biriukov***




***Peru. Перу. Фото Юрия Бирюкова***



На священном холме Пачатата (Отец-Земля) на острове Амантани среди просторов озера Титикака

***Iuryi Birukou. Пачатата на возеры Ціцікака***

*"Нацыянальныя касцюмы перуанак вельмі яркія,*



*а носяць іх індзейцы амаль паўсюдна. Нячаста ходзяць у нацыянальных уборах у сталіцы Перу Ліме, але ва ўсіх астатніх гарадах гэта звычайнае адзенне. Адрозніваюцца святочны і штодзённы ўбор колькасцю дадатковых "упрыгожванняў" у выглядзе накідак, каўнерыкаў, веераў, карункаў, стужак, пер'я, спадніц і гэтак далей".*

Аўтар тэксту Ірына Чарняўская (11.03.2016).

Адно фота ілюструе характэрную камбінацыю капялюшыка і спадніцы ў Балівіі. Дзяўчына на другім фота знятая ў святой для інкаў даліне ракі Урубамба, па дарозе з Куска ў Пісак, з амаль свяшчэннымі жывёламі.

**Літ.:**

*132 Селенс Е. Б. Очерк истории великих географических открытий и постепенного изучения поверхности земли / сост. Е. Селенс. Гомель, 1914.*

*779 Рубакин Н. А. В погоне за наживой, за славой, за знаниями: рассказы о великих путешественниках и знаменитых путешествиях. Гомель, 1925.*

Jay Mason
National Coordinator
Canadian Alliance in Solidarity
with the Native Peoples
P.O. Box 574
Station P
Toronto, ON, Canada
M5R 2S9

August 29, 1996

Dear Ms. Mason:

Your address has been sent here from the Canadian Embassy in Moscow in reply to our request for comments on the current Lubicon situation.

The name of your organization is not mentioned in available directories and other (indexed) publications, so we would be interested to know about your work.

And, of course, your views of possible ways of the Lubicon settlement would be highly appreciated.

With best regards.

Ales Simakou
Executive Secretary

***Letter to Jay Mason (Mohawk / Ojibwe (Michi Saagiig)), National Coordinator, Canadian Alliance in Solidarity with the Native Peoples (Toronto, Ontario) 1996-08-29***

**ГАРАЧКА Зінаіда** - *"У складзе велізарнай [огромной] беларускай дэлегацыі пабывала ў Канадзе на Сусветнай выставе ЭКСПА-67. Наведалі Манрэаль, Атаву, Таронта, Ніягарскі вадаспад. Усё, вядома, уразіла: наведалі павільёны краін, якія выстаўлялі свае экспазіцыі. Але самае цікавае - нас звазілі ў рэзервацыю да індзейцаў племені іракезаў, якая знаходзіцца за 50 км ад Манрэаля. Мужчыны, жыхары рэзервацыі, зарабляюць на будоўлях, жанчыны - песнямі і нацыянальнымі танцамі перад турыстамі. Дзеці вучацца ў школе. Алфавіт складаецца з 11 літар: 7 зычных і 4 галосных. Сустракаў нас сам правадыр племені, у прыгожым індзейскім убранні, са сцягам. У паездку я надзела зорку, але гэта там зусім усё адно [это там совершенно безразлично]. Але атрымалася так: мы на сустрэчы хацелі правадыру даць нашы сувеніры, але ён адмовіўся. Падышоў да мяне і паказвае на зорку, вось гэта, маўляў, падарунак - і паказвае на свае грудзі. Пра тое, што ён меў на ўвазе насамрэч, мы даведаліся пазней.*

*Аказалася, што доўгі час індзейскае племя ўзначальваў былы савецкі лётчык, Герой Савецкага Саюза Іван Дацэнка. Пра лёс гэтага чалавека ўпершыню ў Саюзе расказаў у сярэдзіне 1990-х гадоў вядомы танцор Махмуд Эсамбаеў.*

*У паездцы па Канадзе ён таксама пабываў у гасцях у гэтага племені, і яму ўдалося пабываць ля вогнішча, якое зрабіў правадыр племя, і выслухаць яго споведзь.*

*Лётчык Іван Дацэнка быў збіты пад Львовам і трапіў у палон, уцёк. Праз некаторы час яго сляды згубіліся. Нейкім чынам прыбіўшыся да індзейскага племені ажаніўся з дачкой правадыра, пасля яго смерці ўзначаліў племя. Па нацыянальнасці - украінец. Усё гэта было расказана Эсамбаеву. Правадыр, седзячы ля вогнішча, спяваў украінскія песні. Некалькі гадоў таму я пачула гэтую гісторыю ў перадачы "Чакай мяне", на якую былі запрошаныя ўдзельнікі паездкі ў Манрэаль. А цалкам пра яго быў надрукаваны з падрабязнасцямі артыкул у газеце "Труд", я яго захавала, хоць і вельмі стары, зачытаны".*







***National Aboriginal Day. June 21. Journee nationale des Autochtones. Canada. Brochure and bookmark (French side)***







***Indianists. Bogdan Iakhvak (with glasses) of Uzhgorod, Ukraine among them. Photograph collection of Elena Brish / BAIS***



***Среди этих "индейцев", приехавших на пауваy в России, есть и украинцы. Фотоархив Е. Бриш (временно находится в Гомеле)***

У рэспектабельны ход удзелу ў мерапрыемствах выставы "Экспа-67" афіцыйнай савецкай дэлегацыі на чале з першым намеснікам Старшыні Саўміна СССР Д. Палянскім нестандартнасць унёс найперш Эсамбаеў. Сцвярджаючь, што менавіта па просьбе танцоўшчыка ў праграму візіту была ўключаная паездка ў рэзервацыю магаўкаў *"для азнаямлення з іх рытуальнымі танцамі"*. Пасля вяртання ў Маскву Эсамбаеў публічна расказаў у некалькіх версіях пра "Здаравенькі булы!", "гарылку", украінскія песні і іншае. Бадай, другое па "экстравагантнасці" сведчанне - Зінаіды Гарачка. Пісьменнік У.Ф. Камоўскі, які сабраў гісторыі "Героев без звезд" - нестандартныя лёсы Герояў Савецкага Саюза, таксама згадаў яго, са спасылкай на артыкул С. Ліцкевіч.

*"У розныя гады былі апублікаваныя таксама сведчанні яшчэ некалькіх членаў тагачаснай дэлегацыі. Герой Сацыялістычнай Працы з Беларусі Зінаіда Гарачка, напрыклад, звярнула ўвагу, што правадыр доўга не зводзіў вачэй з яе Залатой Зоркі і раптам моўчкі паказаў пальцам на свае грудзі. Гарачка вырашыла, што ён просіць падарыць яму сваю Зорку. "Не, не", - адказала яна. І ёй падалося, што ён, адыходзячы ад яе, ціха сказаў па-руску: "Шкада…"*

Расказваць так, не зусім паслядоўна, пра прычыну цікавасці правадыра да зоркі Героя - наіўна або наіўна-хітра, у рэчышчы сенсацыйных тэлепраектаў.

Дацэнка павінен быў зусім "здзічэць" сярод індзейцаў, каб, будучы Героем Савецкага Саюза, так наіўна ці то жадаць атрымаць, ці то проста "заўважыць" зорку Героя Сацыялістычнай Працы. Зінаіда, праз аўтарку СББС і сваю "кніжную" версію, разам з іншымі - паўтарае тое, што абверг урэшце нават сам "казачнік" Эсамбаеў.

Апісанне "прыгоды" зоркі героя ў матэрыяле ў СББС (https://www.sb.by/articles/luch-sudby.html), падрыхтаваным Святланай Ліцкевіч, мае падзагаловак "Залатая зорка правадыра іракезаў" і дадае некаторыя дэталі, якіх няма ў кнізе. У ім (канцоўка, якую не цытуем) такая ж безапеляцыйная трактоўка паходжання "правадыра".

*"З таго часу, як Зінаідзе Дзмітрыеўне ў Георгіеўскай зале Крамля ўручылі Залатую Зорку, жыццё яе змянілася. Па-першае, праз некалькі гадоў рассялілі камуналку, у якой яна з мужам, мамай і трыма дзецьмі жыла многія гады. Па-другое, многія гады яна была членам Савецкага фонду міру. Дзякуючы гэтаму і ўбачыла практычна ўвесь свет. І не стамлялася дзівіцца: жыццё багацей на выдумку любой, самай выдасканаленай фантазіі.*

*- У Канаду калі ехала, зорку надзела. Потым ужо я зразумела, што ім усё роўна, якая там у мяне на грудзях узнагарода. Хоць не, адзін эпізод з зоркай усё ж быў. Нашу дэлегацыю павезлі ў рэзервацыю, у племя іракезаў. Сустракаў нас сам правадыр. У яркім адзенні, у вялізным галаўным уборы з пёраў. Мы яму нейкія сувеніры спрабавалі падарыць, а ён усё аднекваўся, браць не жадаў, па-руску казаў: "Не". Я здзівілася, але, думаю, мусіць, бывалі тут дэлегацыі з Саюза, вось ён і запомніў.*

*А потым падыходзіць ён да мяне і на зорку паказвае. Вось гэта, маўляў, падарунак. І яшчэ на свае грудзі тыкае. Я падумала, што гэта ён мае на ўвазе, што тут мая зорка добра будзе выглядаць. "Не, не", - кажу. Мне здалося, што ён сказаў: "Шкада" - і адышоў. А для нас жа самае галоўнае было - выглядаць прыстойна. Таму перапытаць я не палічыла магчымым.*

*Пра тое, што ж насамрэч меў на ўвазе правадыр іракезаў, Зінаіда Дзмітрыеўна зразумела значна пазней. Калі даведалася, што доўгі час індзейскае племя ўзначальваў... былы савецкі лётчык, Герой Савецкага Саюза. Не здалося ёй тады, што здаравенны мужчына ў пёрах мармытаў па-руску. А калі ён паказваў на свае грудзі, меў на ўвазе зусім іншае - уласную Залатую Зорку. Было гэта ў канцы 60-х. Па-руску правадыр з былымі суайчыннікамі не размаўляў".*





Найбольш верагоднай гучыць версія пра менеджара па турызме з некаторым знаёмствам са славянскім светам, якога нанялі магаўкі, тым больш што Янка Брыль апісваў падобны выпадак з таго ж дзесяцігоддзя ў тым жа племені.

Зінаіда Гарачка нарадзілася ў вёсцы Высачаны Лёзненскага раёна. Да пачатку вайны скончыла чатыры класы школы. У 1943 г. была адпраўленая ў Германію на прымусовыя работы. З 1948 г. працавала швяёй-нарыхтоўшчыцай на Менскай абутковай фабрыцы імя Калініна (пазней - аб'яднанне "Прамень" ("Луч")). З 1952 г. была майстрам швейнага ўчастка цэха мадэльнага жаночага абутку. У 1965 г. уступіла ў КПСС.

У 1966 года за выдатныя заслугі ў выкананні заданняў сямігадовага плана і дасягненне высокіх тэхніка-эканамічных паказчыкаў па вытворчасці тканін, трыкатажу, абутку, швейных вырабаў і іншай прадукцыі лёгкай прамысловасці ўганаравана званнем Героя Сацыялістычнай Працы.

**Літ.:**

*8564 Алейников А., Млынник В. Пронзающий Огонь // Железнодорожник Беларуси. 2010. 13 марта.*

*12789 Лицкевич С. "Луч" судьбы // СБ. Беларусь сегодня. 2006. 24 янв.*

*12788 Горячко З. Я перед вами с памятью своей / под ред. К. И. Козака. Мн., 2014.*

**МАНЦЭВІЧ Яўгенія** (5) - тлумачэнне назвы часткі чацвёртай запісаў Аўгіні "Рабінзанада ў Гандурасе" тое, што іх фестываль праходзіў на востраве: *"Двое сутак мы дабіраліся да месца фестывалю - вострава Тыгра ў Ціхім акіяне. Сам фестываль праходзіў побач на яшчэ адным маленькім ненаселеным востраве пад назваю Эль Пака".*

У Гандурасе яны знаходзіліся нелегальна, як і ў Гватэмале, прычым, і гватэмальскія, і гандураскія памежнікі аднесліся ўрэшце да фармальнасцей з разуменнем, "нефармальна". Пры ўездзе з Гандураса ў Нікарагуа ім не паставілі штамп. Што далей? Калі нарэшце з'явіцца штамп?

Некаторае значэнне для беларускай індзеяністыкі мае апісанне заключнага этапу знаходжання ў Гватэмале. Гаспадары, якія прынялі іх на начлег, зноў атрымалі асалоду ад беларускіх песень.

Тут жа мы бачым варыяцыі ў царкоўнай гасціннасці - на гэты раз намёт каля сакральнага аб'екта ім паставіць не дазволілі.

*"Ноч і трапічны лівень засталі нас у маленькім горным мястэчку. Мокрыя да ніткі і замерзлыя, мы сышлі з трасы ў пошуках месца для начоўкі. Раптам сярод цемры з'явіўся чалавек. Мы запыталіся, дзе можна пераначаваць. "Запытайцеся ў гэтым гатэлі", - ён паказаў пальцам на асветленую ліхтаром вывеску. "У нас няма грошай на гатэль", - тлумачым мы. "Я і кажу, зайдзіце ў гатэль, запытайце дона Сямёна…"*

*Мы пакрочылі ў бок рэцэпцыі. Адтуль да нас пад дождж выйшаў хлопчык год адзінаццаці. "Уна кварта?" (пакой?) - запытаў у нас. "Мы хочам паразмаўляць з донам Сямёнам". Хлопчык залепятаў штосьці па рацыі, загадаў чакаць і знік за дзвярыма рэцэпцыі. Мы засталіся пад дажджом.*

*Праз хвілінаў пяць да нас выбег дон Сямён. Мы коратка расказалі пра сябе. Сказалі, што хочам пераначаваць, але не маем грошай. Затое можам зрабіць любую працу ў гатэлі: штосьці памыць, прыбраць. А таксама з радасцю паспяваем беларускіх песень. Дон Сямён паківаў галавою і знік за дажджавою завесаю.*

*Праз пару хвілін да нас ізноў выйшаў хлопчык і сказаў, што дон Сямён чакае нас дома. І паказаў пальцам на хату, над комінам якой клубіўся густы дым. Кухня. Тут у зборы ўся сям'я: дон Сямён з жонкай, сын з нявесткай і два ўнукі. "Хочам паслухаць музыку", - аб'явіў нам дон Сямён.*

*Пасля, пачаставаўшы нас вячэраю, выдзяліў найлепшы пакой у гатэлі. І раніцай пасля сняданку мы працягнулі шлях.*

*Да Гватэмала-сіці нас давезлі два спадары, адзін з якіх аказаўся афіцыйным дыстрыб'ютарам антывіруса Касперскага ў Гватэмале. "А што, у вас усе камп'ютарныя праграмы ліцэнзійныя?" - пытаемся мы. "Ды, не", - адказвае той. Але працы, відаць, у яго хапае. І грошай таксама. Новыя сябры адвезлі нас у рэстаран нацыянальных страваў і накармілі так, што мы нават*




***Nicaragua. Belarus tractor. Нікарагуа. Трактар "Беларус"***





83/4

MX 1 Артуро Фернандес Дельгадо 60
2 Гонсалес Валенсия Армандо 62
3 Касиан Санчес Фернандо 63
4 Гарсиа Мендоса Дагоберто 61
NI 1 Гарсия Мелендес Марта Патрисия 62
2 Джонни Альварес Мансанарес 60
3 Карлос Альберто Эрнандес Лопес 61
4 Луис Хавьер Альманса Аростеги 56?
5 Мантилья Вальесильо Эдуардо Габриэль-
6 Марта Мора Гомес
7 Маурисио Хосе Сепеда Каррера
8 -"- Хосе Хайме Салара
9 Нельсон Альфонсо Эрнандес Гарсия
10 Росалес Вега Рамиро Хосе
11 Серда Эрнандес Кандидо Сильвио
12 Симеон Антонио Торрес Санчес

2

***Mexican and Nicaraguan students of the Gorki Agricultural Academy (1983/1984)***

83/4

NI 13 Хосе Луис Брионес Гомес
14 Элина Дельсокорро Пина Кастельон
15 Эрнандес Вега Адольфо Хосе
16 Арагон Торрес Мигель Анхель
17 Мартинес Ривера Маркос Антонио
18 Гайтан Фуэнтес Маурисио Хавьер
19 Перес Крус Франсиско Хосе
20 Торрес Рико Мартин Освальдо
21 Варела Торрес Леонсио Рене
22 Сото Кордоба Хосе Де Хесус
23 Агирре Кильонес Луис Армандо
24 Гонсалес Сапата Хорхе Эулохио
25 Кампос Гвадамус Валентин Алонсо
26 Торрес Лакайо Хосе Альфредо

3

***Никарагуанские студенты Белорусской сельскохозяйственной академии, Горки (1983/1984). В том же учебном году студентом был Педро Перес Чавес из Коста-Рики***

*не здолелі ўсё з'есці і ўзялі з сабою.*

*У прыгарадзе Гватэмалы нас заспела ноч. Бачым вывеску: "Суполка хрысціянаў...". Гватэмала - вельмі рэлігійная краіна. Кожны першы тут у нас пытаецца, якой мы веры. Значыць, у гэтай суполцы нам мусяць дапамагчы.*

*У вялізнай царкве кожны займаўся сваімі справамі. У пошуках падрэ я падышла да барадатага мужчыны і патлумачыла сітуацыю. Той раптам пачаў крычаць, што падрэ няма, а ён не можа нам дазволіць не тое што ў царкву ўвайсці, але і паставіць перад ёй пад навесам намёт. І ўсё таму, што мы не з'яўляемся членамі іх хрысціянскай суполкі.*

*Мы развярнуліся назад. Аднак у цемнаце разгледзелі маленькую драўляную хатку са святлом у падворку. І накіраваліся туды. Там нас уважліва выслухалі, сказалі, што мы ўсе браты, хоць і размаўляем на розных мовах, а Бог - наш агульны бацька, і пусцілі пераначаваць у суседні будынак - вялізную закінутую сядзібу".*

Нікарагуа ў травелогу Аўгіні прысвечаны толькі тры абзацы, аб'яднаныя ў раздзельчык "Нікарагуа - і ў Афрыцы Нікарагуа", затое ёсць вялікі здымак з тыпамі нікарагуанцаў, якія пазіруюць на фоне трактара "Беларус".

*"Мы едзем у сталіцу Нікарагуа - горад Манагуа. Ён сустракае нас пустыннымі вуліцамі, дзе час ад часу праходзіць які-небудзь чалавек і не забывае нам сказаць, што тут "муі пелігроса" (вельмі небяспечна). І што ўвогуле, як мы тут апынуліся адны і што мы тут робім.*

*За вечар, калі мы шукалі сабе начлег, нас разоў 15 папярэдзілі пра "муі пелігроса". Настала ноч, а прытулку мы так і не знайшлі. Адзіным жывым месцам у раёне аказалася казіно. Мы падышлі да дзвярэй. Да нас выйшаў ахоўнік. Выслухаўшы нашую гісторыю, ён паклікаў кампанію жанчынаў. Тыя паспачувалі нам, сказалі, што пусцілі б да сябе, але ў іх злыя сабакі. І павезлі нас у нейкае месца, дзе мы можам "за танна ўпісацца".*

*Гэтым месцам аказалася каморка, прыбудаваная да дома. Ні ложка, ні вокнаў. Раніцай мы заплацілі гаспадыні 100 кардобаў (каля 5 баксаў) і павалілі ў Гранаду, горад на беразе возера Нікарагуа, дзе ўжо чакалі нас іншыя табурэтнікі. Жаданне заставацца ў Манагуа і працягваць тэрмін перабывання ў краіне адпала".*

Праз знаходжанне групы беларусаў у Коста-Рыцы мы смела пераскочым далей - краіна гэтая "мала-індзейская".

**Літ.:**

*1320 Звыш 9,5 тысячы нікарагуанскіх індзейцаў, насільна ўгнаных амерыканскімі наёмнікамі ў суседні Гандурас, добраахвотна вярнуліся ў родныя месцы за апошнія два гады // Чырвоная змена. 1987. 23 верас.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou*** *(e-mail: baicri@tut.by),*
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Индейцы, Indianie, Indians, indigenous peoples, indigenas, indios de America y Belarus; Алесь Симаков. Белорусы встречаются с индейцами. [Вып. 106].***





# "Легенды з Лідскай зямелькі ..." цікавыя дзецям

Лідскі замак... Колькі падзеяў памятаюць яго каменныя сцены! Вось каб разбудзіць іх! Мы даведаліся б ад іх безліч цікавых гісторый! А імі напоўнена наша Лідская зямля! Так, абаронцы замак трымаў некалькі разоў аблогу, але ж тут праводзіліся і гулянні, забавы розныя!

Легенды, паданні... Іх нямала бытуе на гэтай зямлі яшчэ з часоў паганства...

"Легенды з Лідскай зямелькі ад вяшчуна Гедыміна Ліздзейкі" - так гучыць тэатралізаваная экскурсія, якая распрацаваная Домам Валянціна Таўлая сумесна з Лідскім замкам.

Наведвальнікамі і яе ўдзельнікамі сталі вучні з лідскай школы № 8.

Яны акунуліся ў мінулае праз аповеды Вандроўніка, які сустрэў іх у двары Лідскага замка, а пасля заклікаў у Дом Валянціна Таўлая, дзе працуе цікавая экспазіцыя





"Жылі-былі ў міфах так...". Такім чынам, наведвальнікі даведаліся пра жыццё-быццё беларускіх міфалагічных герояў, пра іх месца жыхарства, паводзіны, як задобрывалі іх людзі...

Іншым разам вандроўнік зноў сабраў каля сябе дзетак. Выхаванцы з дзіцячага садка № 18 паўдзельнічалі ў тэатралізаванай экскурсіі "Легенды з Лідскай зямелькі ад вяшчуна Гедыміна Ліздзейкі".



Паслухалі цікавыя гісторыі ў двары Лідскага замка і пабывалі на экспазіцыі "Жылі-былі ў міфах так...", якая працуе ў Доме Валянціна Таўлая і даведаліся пра быт і жыццё міфалагічных герояў.

Завітайце і Вы да Вандроўніка!!!

***ТК "Культура Лідчыны".***

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 15.07.2024 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*